Цана асобнага нумару 10.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 100.000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 15.000 мк., сярод тэксту 13.000 м. і на 4 стр. 12.000 м., за рацок пэтыту у 1 шп.

№ 1. Вільня, Нядзеля, 28-га кастрычніка 1923 г. Год I.



## Да змаганьня!

Нішто на сьвеце нікому не даецца дарма. З асаблівай яркасьцяй гэта праўда выяўляецца ў гісторыі народаў.

Кожны народ, які пышыцца сваей воляй і сілай, дастаў усё гэта не дарма, не як дар, а здабыў дарогай часта доўгага і цяжкога змаганьня, часта крывавай барацьбой.

І дарма польскі міністар у Сойме надоечы казаў, што незалежнасьць дасталася Польшчы дарма: няпраўда, яна акуплена крывёй лепшых сыноў Польскага народу, палёгшых да палёх бітваў і зложыўшых свае косьці ў далёкай і халоднай Сыбіры...

Істнуюць дзьве дарогі, па якіх ідуць народы, здабываючы для сябе волю. Там, дзе пануе няволя, дзе закон не бароне народу і яго праваў, дзе ўсё грунтуецца на сіле і гвалце,—там паняволены народ *процi сілы ўжывае сілы.* Наадварот, у гаспадарствах канстытуцыйных, дзе ўсё аснована на законе, істнуюць вельмі чысьленыя і рознародныя спосабы бараніць інтарэсы залежных ад дзяржавы народаў, *апіраючыся на канстытуцыю і ня выходзячы з межаў права.*

Дзеля гэтых дзьвюх дарог у беларускай мове істнуюць два назовы: для першае — *барацьба,* для другое—*змаганьне.* І мы сьвядома выбралі апошні назоў для нашае часопісі: мы хочам змагацца за правы нашага народу ў Польскім гаспадарстве, *карыстаючыся ўсімі прадугледжанымі ў канстытуцыі спосабамі.*

Бо тое, што аб нацыянальных правох меншасьцяў у Польшчы сказана ў канстытуцыі,—гэта толькі як — быццам *дэклярацыя* дзяржавы аб тым, у якім кірунку павінны выдавацца законы і загады ураду, што маняцца нармаваць жыцьцё нацыянальных меншасьцяў. Мала таго, што канстытуцыя прызнае нашае права на школу ў роднай мове, на падмогу дзяржаўнага скарбу для культурна-прасьветных установаў нашае: трэба, каб былі ўведзены ў дзяржаўнае жыцьцё адумысныя ўставы і правілы, якія-бы точна азначылі межы нашых праваў і точна ўстанавілі-бы абавязкі ўраду адносна да патрэб беларускага і другіх народаў, што знаходзяцца пад уладай Польшчы.

Польская дзяржава дагэтуль ня выдала, здаецца, ніводнага закону, які, у мысьль канстытуцыі, нармаваў-бы праўныя адносіны паміж урадам і нацыянальнымі меншасьцямі. Па-за агульнай дэклярацыяй нашых праваў, зьмешчанай у канстытуцыі, *законаў аб меншасьцях,* дзеля практычнага прылажэньня іх у жыцьці, *дагэтуль у Польшчы няма.* І—пакуль іх не завядуць — „найдэмакратычнейшая" спаміж сучасных канстытуцыяў астанецца толькі пустым словам.

Перад нашым народам і стаіць нязвычайна цяжкая задача: дабівацца ўстанаўленьня такіх законаў, якія *абавязывалі-бы* кожную дзяржаўную ўстанову, кожнага міністра і кожнага ўрадоўца шанаваць нашы правы і задаволіваць нашы патрэбы, на што права дае нам канстытуцыя.

Польская *канстытуцыя* ў сваім *дэмакратызьме* далёка *абагнала польскае грамадзянства.* Іменна ў канстытуцыі няма і сьледу тае нацыянальнае нецярпімасьці, тае ненавісьці, якую выяўляюць усе правыя, а часта нават і некаторыя левыя групы польскага грамадзянства.... А ўсе законы гаспадарства выдаюцца тым-жа польскім грамадзянствам—праз выбранцаў яго ў Сойме і Сэнаце. Згэтуль ясна, што ў сваім імкненьні да замацаваньня ў законах Польшчы абвешчаных яе канстытуцыяй праваў нацыянальных меншасьцяў і беларусы, і украінцы, і жыды, і немцы—ўсе нацыянальнасьці Польшчы сустрэнуцца з імкненьнем нацыяналістычнае большасьці польскага грамадзянства ўрэзаць гэтыя правы, *даць нам як наймеш.*

Але *мы павінны дабівацца як найбольш.* І на гэтым грунце нас чакае дужа цяжкое і доўгае *змаганьне.*

У гэтым змаганьні, ведзеным *парляманцкай дарогай,* павінен злучыцца ў-радно ўвесь наш народ.

У гэтым змаганьні пераможа наша *арганізованасьць,* наша нацыянальная і грамадзкая *сьвядомасьць,* наша духовая *моц* і *цьвёрдасьць,* з якой мы будзем дабівацца таго, што нам суліць канстытуцыя.

Толькі народ, няздольны да жыцьця, можа спадзявацца на нечыю ласку, на нейкую даравізну. Мы—народ жывы, народ, які яшчэ ня зжыў сваей творчай моцы, а толькі пачынае выяўляць гэту творчую моц сваю. І кожын крок у кірунку выяўленьня яе, кожная беларуская грамадзкая арганізацыя, кожная беларуская школа, кожная беларуская кніжка ці газэта, што выяўляе нашы патрэбы і дамаганьні, сьведчучы аб нашым культурным росьце,—ўсё гэта будзе ўзмацовываць вагу нашага голасу, калі мы вустамі нашых выбранцаў з соймавае трыбуны будзем дамагацца правядзеньня ў жыцьцё таго, на што дае нам права канстытуцыя.

У сучасных варунках нашага жыцьця кожнае *выяўленьне нашае культурнае і грамадзкае творчасьці*—гэта і ёсьць *змаганьне* за захаваньне ад зьніштажэньня нашага народу, змаганьне за нашае права на жыцьцё і на волю. Да такога змаганьня мы і заклікаем усіх беларусаў, што жывуць у межах Польскага гаспадарства.

## Перад XIX Кангрэсам P. P. S.

У першых днях лістапада ў Кракаве адбудзецца XIX Кангрэс Польскай Сацыялістычнай Партыі (P.P.S.). Кангрэс мае выслухаць даклад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Партыі, вынясьці свой прысуд тэй палітыцы, якую вядуць яе адказныя кіраўнікі, як на соймавым і прафэсыянальна-клясавым грунце ўнутры Польскай Рэспублікі, так і на грунце міжпародных сацыялістычных арганізацыяў, і апрацаваць кірунак далейшай тактыкі партыі, яе адносіны да тых ці іншых пытаньняў, якія жыцьцё ставіць на парадак дня.

Як ведама P.P.S. лічыць сябе выразьнікам інтарэсаў і настрояў работніцкай клясы і мае прэтэнсію чуць не на манаполь у кіраўніцтве работніцкім рухам у межах Польшчы. І трэба сказаць праўду, што ў апошнія гады незалежнага істнаваньня Польскае дзяржавы на долю P.P.S. запраўды выпала гэтая вялікая роля, бо другія работніцкія партыі былі альбо дужа слабымі, як напр. незалежныя сацыялісты (група Дробнэра) ці камуністы, альбо толькі насілі назову работніцкіх, у запраўднасьці-ж зьяўляліся выразьнікамі інтарэсаў дробна-мяшчанства, як N.P.R. (народная работніцкая партыя) і хадэкі. Але адказныя і прызнаныя кіраўнікі P.P.S., якія запраўды мелі вялізарныя ўплывы на дзяржаўную палітыку Польшчы, вялі работніцкую клясу ня шляхам змаганьня за сацыялістычныя ідэалы, ня шляхам умацаваньня нават тых заваяваньняў работніцкай клясы, якія ёй удалося здабыць у пэрыад утварэньня маладое Польскае Рэспублікі, а шляхам палітычнага авантурызму пана Пілсудскага, шляхам угоды з буржуазнымі клясамі, і вынікам гэтай палітыкі было ўмацаваньне рэакцыі запрапашчэньне палітычных і сацыяльных здабыткаў пралетарыяту, яго эканамічная нэндза і паняволеньне ўладаючымі клясамі.

І вынікам гэтага зьяўляецца ўпадак уплываў P.P.S. сярод работніцкіх масаў і ўсіленьне левых сацыялістычных цячэньняў. Ува ўсіх вялікшых прамысловых раёнах мы бачым узрост камуністычных уплываў; хваля забастовак, якая пракацілася па ўсей Польшчы ўлетку, ясна сьведчыць аб гэтым, таксама як і выбары ў гарадзкія рады і касы хворых. І гэты ўзрост уплываў тых партыяў, з якімі P.P.S. вядзе самае вострае змаганьне, ідзэ дужа хуткім тэмпам. Ня кажучы ўжо аб такіх прамысловых цэнтрах як Горны Шлёнск, Донброўскі басэйн, Лодзь, Варшава, нават тут у Вільні, дзе прамысловасьць разьвіта досыць слаба, гэта рэзка кідаецца ў вочы: калі, напр., у часе выбараў у Сойм і Сэнат „Саюз пралетарыяў гарадоў і вёсак" атрымаў у параўнаньні з P.P.S. зусім ніклую лічбу галасоў, ужо праз некалькі месяцаў у часе выбараў у Раду Касы Хворых тая-ж група змагла правясьці трох сваіх кандыдатаў.

Мала таго сярод сяброў, P.P.S. істнуе моцная апазіцыя, адносна да тэй палітыкі, якую дагэтуль вялі яе кіраўнічыя органы. Істнуе нездавольства з лішняга ўгадоўства і мала-радыкальнай палітыкі. Бліжэй стаячыя да масы працоўнага люду радавыя працаўнікі лепш адчуваюць патрэбы работніцкіх масаў, чым загразшыя ў апортунізме, адарваўшыяся ад гэтай масы, патэнтованыя палітыкі яе кіруючых органаў. І гэта асабліва праяўляецца цяпер перад абрадамі партыйнага кангрэсу, перад выбарамі новых цэнтральных органаў партыі.

Як відаць, на гэтым кангрэсе адбудзецца моцнае змаганьне паміж гэтымі двума кірункамі ў самой партыі і перамога таго ці іншага кірунку будзе мець вялікае значэньне ня толькі для работніцкіх масаў, але наагул для ўсяго ходу палітычных падзеяў у Польскай Рэспубліцы. Запаведзь гэтага змаганьня дае праект рэзалюцыі на партыйны кангрэс, прыняты на зьезьдзе акружнай арганізацыі P.P.S. Варшава-Падмейска.

Галоўным пунктам разьбежнасьці паміж праектамі рэзалюцыяў Ц.В.К. і Варшаўскай арганізацыі зьяўляецца ацэнка палітычнай сытуацыі і ўчасьце P.P.S. у тварэньні новых урадаў.

адозьве, кажучы аб праступных руках, ня меў на мыслі жыдоў.

Што-ж цяпер будуць пісаць эндэкі аб „праступных інародцах"?!

**„Балахоўцы" за „работай".**

Аказываецца, што ня толькі п. Язэп Пілсудскі карыстаўся услугамі балахоўскае і дэнікінскае банды, што ў сваім часе пад фірмай „беларусаў" рабіла пагромы мястэчак і вёсак, якія „вызваляла" спад бальшавіцкае ўлады,—але карыстаецца імі і „хіена". Прынамся „Robotnik" у нядзельным нумары друкуе гэткую заметку:

> Перад 11 сьнежня мінулага году на паўдзённых крэсах стварылася „Towarzystwo Rozwoju Narodowego w Polsce", арганізацыя, якая імкнецца да палітычнага пераварoту ў Польшы ў выдатна рэакцыйным духу, тачней кажучы—манархічным. Гэтая арганізацыя ў лік сваіх сябраў прыймае б. дэнікінскіх і балахоўскіх ахвіцэраў і жаўнераў. Гэты наскрозь маскоўскі элемэнт знаходзіць выдатнае падтрыманьне мясцовых і немясцовых эндэкаў пры замяшчэньні ўрадовых становішч у судзе, на чыгунках і ў адміністрацыі.

Як відаць, „дэмакратычныя" ўрады ўзгадавалі коштам дзяржавы добрых слуг для польскае чорнае сотні... Вось, „мудрая" палітыка п. Пілсудскага!

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

**Арышт рэдкатара „Вольнага Сьцягу".**

27-га гэтага кастрычніка па загаду Судовага Сьледаваццеля 6-га райёну, п. Боброўскага, арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскі вастрог рэдактар „Вольнана Сьцягу", Язэп Лагіновіч.

**Апэляцыйны Суд.** 23 кастрычніка ў Варшаве адбылося паседжаньне Апэляцыйнага Суду, які меўся разглядаць справу 45 беларусаў, засуджаных у вядомым Беластоцкім працэсе. З прычыны таго, што галоўны сьведка абвінавачаньня правакатар Лянкевіч, не зьявіўся, пракурор запрапанаваў адлажыць разгляд справы. Суд згадзіўся на прапавіцыю пракурора і вызначыў справу на 28 сьнежня г. г.

**Арышты.** Ноччу з 20 на 21 кастрычніка віленская паліцыя зрабіла шмат арыштаў. Быў арыштованы і сябра Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні гр. Я. Туркевіч, але пасьля быў зволънены.

**Канфіскаты.** Выходзіўшая ў Вільні беларуская газэта „Вольны Сьцяг" па канфіскаце №№ 15, 16 і 17 была зачынена. Выйшаўшая аднаднёўка „Сьцяг Волі" таксама канфіскавана. Цяпер вышла два нумары газэты „Воля Народу".

№ 14 літоўскай тыднёвай газэты „Lietuvos Kelias" канфіскаваны.

У в. Яглевічы, Борцагічскай вол., Косаўскага павету адкрыты сэкрэтар'ят Беларускага пасольскага Клюбу.

Рэдактар зачыненай газэты „Новае Жыцьцё", Язэп Лагіновіч, атрымаў акт абвінавачаньня за тое, што ў № 8 газэты „Новае Жыцьцё" зьмясьціў артыкулы: „Беларускі Клуб у Польскім Сойме", „Незаконны закон", „Цяжкі дух", „Урад Савецкай Украіны ў справе ўсходніх граніц Польшчы", „З падарожы—Краснае", „З беларускага жыцьця", „Беларусы ў Амэрыцы" і „Высылка чужаземцаў", у якіх пракуратура ўбачыла падбураньне чытачоў да бунтаўніцкай і здрадніцкай дзейнасьці і да ненавісьці паміж пасобнымі часткамі мясцовай люднасьці. (Арт. 129 ч. 1 і 6 К. К.).

— „Цантральная Беларуская Школьная Рада гэтым абвяшчае сяброу Таварыства Беларускае Школы, што ёю склікаецца агульны сход сяброу Т-ва на 1-е лістапада (чацьвер) 1923 г. у г. Вільні, у памешканьні Школьнай Рады (Віленская № 12), а 11 гадзіне дня.

Калі на азначаную гадзіну не зьбярэцца устаноулены лік сяброу, сход адкрыецца на 1 гадзіну пазьней і будзе лічыцца правамоцным бяз увагі на лік прыбыушых на гэтую гадзіну сяброу (§ 34 статуту Т-ва)".

Віцэ-Старшыня **Антон Луцкевіч.**

За Сэкрэтара **А. Грыневіч.**

### Весткі з вёскі.

**В. Груздава**, Вялейскага пав.

З девятага на дзесятае кастрычніка паліцыя арыштавала гр. Арсеня Сярэбранікава. У часе вобыску ў яго знайшлі і забралі 2 № Вольнага Сьцягу, 1 № Вызволеньня, 1 № Віленское Утро, адзін ліст з Амэрыкі і некалькі беларускіх кніжок і падручнікаў. Што за прычына яго арэшту мы і дагэтуль ня ведаем. Няўжо толькі за тое, што забралі пры рэвізіі? Дык нам здаецца, што не. Бо каб арыштовывалі за беларускія газэты і кнігі, дык трэба было-б арыштаваць усіх беларусаў у межах Польшчы, а можа нават і некаторых палякоў, бо і яны чытаюць беларускую літэратуру. Прычына тут, здаецца, што—выбары ў Сойм, у якіх Сярэбранікаў прыймаў удзел. Мусіць тыя пратэсты нашых беларускіх паслоў не даюць спакойна спаць крэсовым панам і яны хапаюць наш народ без разбору і садзяць у вастрогі. Але гэтым нас не запужаюць. Чым болей сталь гартуюць, тым болей яна становіцца цьвярдзейшай. Чым болей нас ціснуць, тым болей мы усьведамляемся, тым болей павялічываюцца кадры працаўнікоў на карысьць нашай многапакутнай Бацькаўшчыны.

**В. С.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**Галоўны архітэктар ССРБ.** Дзеля кантролю і кіраўніцтва будаўнічымі працамі ў краі, пры Эканамічнай Нарадзе Беларусі ўтвараецца пасада галоўнага архітэктара ССРБ.

**Лячэбная дапамога тубэркулёзным рабочым.** З 20 верасьня пры тубэркулёзным дыспансэры будзе давацца лячэбная дапамога застрахаваным рабочым і служачым.

Прыём будзе рабіцца ва ўсе працоўныя дні ад 6 да 9 гадзіны.

**Праверка беспрацоўных.** У хуткім часе Народны Камісарыят Працы будзе праводзіць праверку беспрацоўных. Прычым асаблівая ўвага будзе зьвернута на 2 катэгорыі беспрацоўных, сярод якіх ёсьць шмат такіх, якія маюць падсобныя заробкі.

Усе беспрацоўныя будуць падзелены на 3 катэгорыі, згодна іхнаму матар'яльнаму становішчу.

У другую і трэцюю—рэшта.

**Беларускія падручнікі.** Народны Камісарыят Асьветы апрацаваў другую кніжку пасьля лемантара і гэтымі днямі здаў для друку.

### Пісьмо з турмы.

Нашай рэдакцыяй атрыманы гэткі ліст на абрыўку паперы з Косаўскага арыштнага дому ад 28. IX, 1923 г., заадрэсаваны ў Беларускі і Украінскі Пасольскія Клюбы.

Паважаныя грамадзяне! Выбачайце, што пішам на гэткай паперы,—лепшай ня маемо, немагчыма дастаць. 17. IX. 23 г. нашу вёску Яглевічы, Косаўскага павету акружыла паліцыя і на ранку зрабіўшы вобыск арыштавалі—Янку Бахура, Мікалая Перавалоцкага, Антося Клютка і інш., і не даючы акта абвінавачаньня трымаюць іх ужо 9-ы дзень. Прычынай арышту зьяўляецца, як усе мысьляць, іхная прадвыбарная агітацыя, бо іншых грахоў яны ня маюць. У Слоніме ўжо мучацца сотні сялян Палесься, якіх, нібы ў зьвязку з Тэлеханскім нападам, пазаарыштоўвалі і з нялюдзкімі зьдзекамі адаслалі ў Слонім. (Далей ідзець гарачая просьба да паслоў Сойму з клюбу Укр. і Бел. аб прыезьдзе да іх, каб сваей прысутнасьцю спыніць факты нечуванага зьдзеку над вясковай люднасьцю).

Прыяжджаў да нас на Палесьсе пасол з „Wyzwolenia" Кандоўскі. Але ён прыехаў, запісаў каго пабілі шампаламі, прыкладамі, нагамі, з тым і паехаў, а сялян як білі, так і б'юць. (Далей просяць прывезьці з сабой доктара, бо сьляды біцьця ёсьць амаль не на ўсіх зьбітых).

Чакаем вас у Косаўскай турме ў надзеі на Вас, або ў Слонімскай турме.

Далей ідуць подпісы.

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.